ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№27
(2533)

3 ліпеня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.
Цана 1 000 рублёў.

## СЛАЎНЫ ГОРАД НА БЯРЭЗІНЕ



**На крутым беразе Бярэзіны шырока і прывольна раскінуўся Бабруйск — адзін са старэйшых гарадоў Беларусі. Упершыню ён упамінаецца ў летапісе пад 1363 годам.**

**НА ЗДЫМКУ: будынак Цэнтральнай раённай бібліятэкі ў Бабруйску (помнік архітэктуры).**

*(Заканчэнне фотарэпартажу на 3-й стар.).*

# ВЯРТАННЕ ДА МІЦКЕВІЧАЎСКІХ РЭАЛІЯЎ, альбо ВАНДРОЎКА Ў КАЛДЫЧЭЎСКАЕ ЗАВОССЕ



**По рашэнню ЮНЕСКА 1998 год аб'яўлены Годам Міцкевіча — нашага славутага земляка, калі будуць ушаноўвацца 200-я ўгодкі з дня яго нараджэння. У студзені-лютым 1990 года "Голас Радзімы" на сваіх старонках змяшчаў гісторыка-біяграфічны нарыс Уладзіміра Урбановіча з Валеўкі пад назовам "Адам Міцкевіч і Навагрудчына". У ім расказвалася, адкуль паходзіў род вялікага паэта, пра яго бацькоў, калі і дзе ён нарадзіўся, пра дзяцінства і школьныя гады. Публікацыя нарыса вядомага настаўніка і краязнаўцы вельмі прыхільна была сустрэта чытачамі газеты.**

**Агульнавядома, што гістарычная Навагрудчына з'яўляецца радзімай Адама Міцкевіча. Найперш, гэта Баранавіцкі, Карэліцкі і Навагрудскі раёны, дзе ў асноўным размешчаны памятныя мясціны паэта. У Завоссі Баранавіцкага раёна, дзе ён нарадзіўся, Міцкевічаўскім камітэтам устаноўлены помнік-абеліск. Навуковыя супрацоўніцы Дома-музея Адама Міцкевіча ў Навагрудку мяркуюць, што вялікі паэт сапраўды нарадзіўся ў Завоссі, але не ў тым, што ля Калдычэўскага возера (Баранавіцкі раён), а пад Навагрудкам. Таму рэдакцыя газеты звярнулася да гісторыка-славіста, міцкевічазнаўцы Льва МІРАЧЫЦКАГА з прапановай разабрацца з узнікшым пытаннем, выказаць свае довады.**

*Маленства край! Ты з намі да скanання,*
*Святы і чысты, як першае каханне.*

А. Міцкевіч.

Непрыкметна наблізімся да 200-годдзя з дня нараджэння на свет Божы славутай постаці, якой ганарыцца гістарычная Навагрудчына. Ганарыцца Беларусь, Летува, Польшча... Усё славянства, прагрэсіўнае чалавецтва. Надыходзіць часіна, калі будзе ўрачыста ўшаноўвацца вялікі сын беларускай зямлі, геніяльны творца, гуманіст, барацьбіт за вольнасць усіх людзей і народаў. Імя яму Адам Міцкевіч. Пра яго напісана значная колькасць допісаў, нарысаў, рэфератаў, мноства кніг на розных мовах.

З гэтай нагоды хочацца і самому прыгадаць тое, што хвалюе, заўжды натхняла, клікала перанесціся ў думках да мілых і дарагіх сэрцу мясцін, адкуль пачынаўся ягоны жыццёвы шлях да пазнання навакольнага свету. Гэта ж і мае блізкія, родныя мясціны, якія знаходзяцца ў маляўнічай Сэрвацкай даліне. Найперш — невялікая вёска Баяры, што прытулілася на прыгорку непадалёку ад мястэчка Цырын (знаўцы даўніны выводзяць яго фінскае паходжанне — як "Цуд над ракою"). З паўночнага боку прасціраўся шыкоўны двор землеўладальнікаў Жывіцкіх — Мураваны Асташын з руінамі Кальвінскага збору і старадаўнім пахавальным склепам, што не раз хвалявалі таямніцамі напісанай гісторыі.

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

*З «КРЭСАЎ УСХОДНІХ»*

# БЕЛАРУСКІ ДРУК І «ДЭМАКРАТЫЧНЫ ПАРЛАМЕНТАРЫЗМ»

Важнасць пазначанага тут перыяду ў гісторыі Беларусі (з моманту падпісання Рыжскага мірнага дагавора да перавароту Пілсудскага) несумненная. Менавіта ў першыя пасляваенныя гады ў Польшчы, куды ўваходзіла заходняя частка Беларусі, ішоў не проста складаны працэс адраджэння дзяржаўнасці, які сам па сабе заслугоўвае пільнай увагі, але і, што асабліва важна, станаўленне Рэчы Паспалітай II у новых межах. Сацыяльна-палітычны арганізм, які толькі нараджаўся, патрабаваў максімуму інфармацыі з так званых "крэсаў усходніх" (усходніх ускраін). Адным з галоўных інфармацыйных каналаў таго часу з'яўляўся перыядычны друк, што служыў правадніком урадавых ідэй і інструментам інтэграцыі земель.

Правы друку ў Заходняй Беларусі доўгі час рэгуляваліся распараджэннем камісара ўсходніх земель "Аб часовых правілах для прэсы" ад 17 ліпеня 1919 года.

Нягледзячы на тое, што свабода друку была абвешчана ў Канстытуцыі 1921 года (104—105), заканадаўчая база ў галіне сродкаў масавай інфармацыі доўгі час не распрацоўвалася.

І толькі 10 мая 1927 года было падпісана спецыяльнае распараджэнне прэзідэнта аб друку. (Новыя правы прымаліся таксама ў лютым 1930 года і лістападзе 1938 года).

Менавіта на тэрыторыі Заходняй Беларусі найбольш ярка праявіліся вынікі палітычнай блізарукасці кіруючых колаў, адсутнасці цэльнай канцэпцыі ў галіне друку і нацыянальнага друку, у прыватнасці. Адна з галоўных прычын — частая змена кіруючых кабінетаў, заклапочаных большай часткай нестабільнай знешнепалітычнай і эканамічнай сітуацыяй у краіне. (Толькі за перыяд з ліпеня 1920 года па май 1926-га змянілася 9 кабінетаў).

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**Лета майго дзяцінства.**

**Фота Валерыя БЫСАВА.**

**ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ**

*ДЗЕНЬ БЯДЫ — 23 ЧЭРВЕНЯ*



Гэтую дату, напэўна, запомняць да канца жыцця сённяшнія жыхары Беларусі. У панядзелак, 23 чэрвеня, надвячоркам, ураган страшэннай моцы абрынуўся на Беларусь. Такога шаленства стыхіі не прыгадаюць нават доўгажыхары. Пацярпелі Мінская і Брэсцкая вобласці. На Брэстчыне ўраган прайшоўся па 6 раёнах, пацярпела 132 населеныя пункты, загінуў адзін чалавек, знішчана больш за 12 тысяч гектараў пасеваў. На Міншчыне яшчэ больш разбурэнняў — у 9 раёнах пацярпелі 1 410 населеных пунктаў, два чалавекі загінулі, 33 былі паранены, знішчана 58 тысяч гектараў пасеваў. Паламаны, павыварочваны з карэннем лес, парваны лініі электраперадач, разбурана палатно шасейных дарог... Велізарных памераў страты яшчэ да канца не падлічаны. Але дзяржава з першых хвілін трагедыі не пакінула ў бядзе людзей. Перапыніўшы свой адпачынак, вярнуўся з Сочы ў Мінск Прэзідэнт А. Лукашэнка, каб асабіста заняцца неадкладнымі справамі па аказанню дапамогі пацярпелым ад стыхіі раёнам. Урад выдзеліў Мінскай і Брэсцкай абласцям грошы на аднаўлене разбуранай гаспадаркі.

Адгукнулася на наша гора Расія. 25 чэрвеня ў Мінск прыбыў міністр па надзвычайных сітуацыях Расійскай Федэрацыі Сяргей Шойгу, разам з ім каманда расійскіх выратавальнікаў і іншых спецыялістаў. Прынята рашэнне аб аказанні Беларусі неабходнай дапамогі.

НА ЗДЫМКАХ: пасля ўрагана.



*НА СЕСІІ ААН*

## ЧАЛАВЕЦТВА Ў XXI СТАГОДДЗІ

23 чэрвеня пачала работу XIX спецыяльная сесія Генеральнай Асамблеі ААН. У ёй удзельнічае дэлегацыя Рэспублікі Беларусь, якую ўзначальвае міністр замежных спраў Іван Антановіч.

Цяперашняя сесія разгледзіць шэраг важных аспектаў фарміравання парадку дня развіцця чалавецтва на XXI стагоддзе.

Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Беларусі таксама выступіў на форуме і прадставіў падыходы нашай краіны да вызначэння стратэгіі развіцця ў будучым стагоддзі.

Акрамя ўдзелу ў пасяджэнні сесіі Іван Антановіч сустрэнецца з Генеральным сакратаром ААН Кофі Ананам, а таксама з міністрамі замежных спраў шэрагу дзяржаў, кіраўніцтвам Фонду Сораса.

*БЕЛАРУСЬ І СВЕТ*

## НА ЭКАНАМІЧНЫМ ФОРУМЕ

З 26 па 29 чэрвеня дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале з прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам знаходзілася ў Швейцарыі, дзе прыняла ўдзел у эканамічным форуме Кран-Мантана.

Кіраўнік беларускага ўрада выступіў на пленарным пасяджэнні "Беларусь на скрыжаванні Еўропы — узаемадзеянне паміж напрамкамі інтэграцыі". У ходзе пасяджэння прайшоў тэлемост-інтэрв'ю з Прэзідэнтам нашай краіны Аляксандрам Лукашэнкам.

У час работы форуму прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг правёў шэраг двухбаковых сустрэч з кіраўнікамі дэлегацый Эстоніі, Румыніі, Славакіі, Славеніі, Македоніі, Харватыі, Марока, Лівана і Еўрапейскай камісіі.

*ПАЧАТАК ПАДЗЕІ*

## ВІЦЕБСК, ШАГАЛ І МАСТАЦТВА

З 20 чэрвеня ў Віцебску пачаліся VII Міжнародныя Шагалаўскія дні і II Міжнародны Шагалаўскі пленэр, прысвечаныя 110-годдзю з дня нараджэння Марка Шагала. Горад, што ўтульна размясціўся на зялёных жывапісных узгорках на берагах Віцьбы і Дзвіны, сустрэў гасцей сонечным надвор'ем і гасціннасцю сваіх гаспадароў. У Віцебск прыехалі мастакі з розных краін свету: Германіі, Ізраіля, Швейцарыі, Літвы, Расіі, Польшчы, Францыі, Латвіі, Грэцыі. Беларусь прадстаўляюць В. Альшэўскі, С. Грыневіч, А. Ізоітка, Н. Кірэеў, С. Кірушчанка, А. Ксяндзоў, Р. Несцераў, Ю. Несцярук, А. Смаляк, С. Цімохаў, у тым ліку віцебскія мастакі У. Вітко, В. Ляховіч, А. Чміль. Такім чынам, пленэр стаў яскравай з'явай культурнага жыцця не толькі Беларусі, але і ўсяго свету. У рамках II Міжнароднага пленэра пройдуць наступныя мерапрыемствы: прэс-канферэнцыі, адкрыццё выставы твораў М. Шагала з музея імя М. Шагала (г. Ніцца) і фонду Іды Шагал у Мастацкім музеі г. Віцебска, адкрыццё Дома-музея М. Шагала па вул. Пакроўскай, VII Міжнародныя Шагалаўскія чытанні "Марк Шагал. Віцебск. Парыж", адкрыццё выставы I і II Міжнародных пленэраў, прысвечаных М. Шагалу.



У першы ж дзень у Фестывальным цэнтры г. Віцебска адбылася сустрэча мастакоў, крытыкаў, прэсы з прадстаўнікамі гарадской улады, а таксама старшынёй Шагалаўскага камітэта, паэтам Давідам Сімановічам, аўтарам многіх вершаў, прысвечаных вялікаму мастаку XX стагоддзя. У Беларускім дзяржаўным акадэмічным драматычным тэатрам імя Я. Коласа адбылося ўрачыстае адкрыццё пленэра і II фестывалю "Скрыпка Шагала". Пасля афіцыйнай часткі выступілі Дзяржаўны камерны хор Рэспублікі Беларуь пад кіраўніцтвам Ігара Мацюкова і ансамбль салістаў "Класік — авангард", мастацкім кіраўніком якога з'яўляецца Уладзімір Байдаў. Цудоўнае спяванне і музыка стварылі ў зале атмасферу свята — Віцебска, Шагала і мастацтва. У выставачнай зале Саюза мастакоў адкрылася выстава мастакоў Віцебска і Віцебскай вобласці, прысвечаная жыццю і творчасці Марка Шагала. А наперадзе гасцей і ўдзельнікаў пленэра чакаюць яшчэ два тыдні творчай працы, цікавых сустрэч, культурных падзей у горадзе, над якім лунае анёл са скрыпкай...

Таццяна ШЫМАНСКАЯ.

НА ЗДЫМКУ: урачыстае адкрыццё II Міжнароднага Шагалаўскага пленэра ў тэатры імя Я. Коласа ў Віцебску.

*V З'ЕЗД БНФ*

## ЗЯНОН ПАЗНЯК ЗАСТАЕЦЦА

21 чэрвеня ў Мінску адбыўся чарговы V з'езд Беларускага народнага фронту, на якім 98 працэнтаў дэлегатаў ад усіх рэгіянальных структур гэтай арганізацыі прагаласавала ў падтрымку Зянона Пазняка як лідэра БНФ.

За дзень да пачатку з'езда міліцыя арыштавала выконваючага абавязкі старшыні БНФ Лявона Баршчэўскага, які мусіў адбываць пяцісутачны арышт па рашэнню Савецкага райсуда горада Мінска за ўдзел у масавай акцыі 23 сакавіка, прысвечанай 79-й гадавіне БНР. Аднак пасля таго, як аб гэтым арышце пачалі паведамляць многія замежныя сродкі масавай інфармацыі, і ў першую чаргу расійскія тэлеканалы, кіраўніцтва Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкома прыняло рашэнне аб тым, каб адпусціць Баршчэўскага на дзень пад падпіску для ўдзелу ў чарговым з'ездзе сваёй арганізацыі.

Такім чынам, з'езд БНФ прайшоў па запланаванаму раней сцэнарыю. На ім прысутнічаў 321 дэлегат з 375 вылучаных. У БНФ, паводле інфармацыі яго лідэраў, цяпер зарэгістравана звыш чатырох тысяч сяброў, якія маюць членскія білеты, і некалькі дзесяткаў тысяч прыхільнікаў. Гэта, відавочна, самая буйная апазіцыйная партыя ў нашай краіне.

Асабіста прыбыць на чарговы з'езд Зянон Пазняк, які другі год знаходзіцца ў эміграцыі і атрымаў палітычнае прыстанішча ў ЗША, не рызыкнуў. Але дэлегаты змаглі выслухаць саракахвілінны даклад свайго лідэра, які быў запісаны на відэаплёнку і агучаны на пачатку з'езда. У сваім дакладзе З. Пазняк заявіў, што сутнасцю дзейнасці БНФ павінен стаць "беларускі нацыянальна-вызваленчы рух".

*БЕЛАРУСКІ «ФОРД»*



У пасёлку Абчак пад Мінскам, дзе размясцілася СП "Форд Юніён", сабрана першая партыя — 20 "беларускіх" машын дзвюх мадэлей "Форд-эскорд" і "Форд-транзіт". Пакладзены добры пачатак выпуску ў нашай краіне першых легкавых аўтамабіляў прэстыжнага класа.

"Нованароджаных" блаславіла група дэпутатаў Нацыянальнага сходу рэспублікі. Дырэктар прадпрыемства Ніл Кемпбел правёў з імі азнаямленчую экскурсію. Госці засталіся вельмі задаволенымі новай вытворчасцю.

Дарэчы, у перспектыве частка камплектуючых для "фордаў" будзе выраблядца ў Беларусі. А гэта і патаненне кошту машын, і новыя рабочыя месцы.

*СТЫПЕНДЫЯТЫ ПРЭЗІДЭНЦКАГА ФОНДУ*




У Мінску, у Маладзёжным тэатры эстрады, адбыўся канцэрт стыпендыятаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Юныя таленты нашай рэспублікі прадэманстравалі свае дасягненні ў абраным відзе мастацтва, парадавалі гледачоў і строгае журы высокім выканаўчым майстэрствам, пацвердзіўшы тым самым сваё права называцца стыпендыятамі фонду.

НА ЗДЫМКУ: юных артыстаў віншуе з выдатным выкананнем народны артыст СССР Мікалай ЯРОМЕНКА.

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

ПОМНІК-БЮСТ Адаму Ягоравічу Багдановічу — вучонаму-этнографу, фальклярысту і мовазнаўцу, бацьку класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча будзе ўстаноўлены на яго радзіме ў гарадскім пасёлку Халопенічы Крупскага раёна. Такое рашэнне прыняў Савет Міністраў Беларусі.

КАМПАНІЯ агульнага рынку Паўднёвай Амерыкі "Меркасур" зрабіла заказ на пастаўку комплексаў "Палессе" і іншай тэхнікі, якая вырабляецца на "Гомсельмашы". У бліжэйшы час плануецца падпісаць кантракт.

НЯДЗЕЛЬНАЯ школа адкрылася ў царкве ў вёсцы Нікалаева на Мёршчыне. Дзеці тут будуць вывучаць Закон Божы, царкоўнаславянскую мову, спяваць у царкоўным хоры, займацца царкоўным рукадзеллем.

МІНІСТЭРСТВА адукацыі Рэспублікі Беларусь арганізавала двухтыднёвыя курсы для настаўнікаў беларускай мовы, якія жывуць і працуюць за мяжой. Дваццаць настаўнікаў з Польшчы, Латвіі, Літвы і Башкартастана займаюцца ў Інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых кадраў і спецыялістаў адукацыі.

МАГІЛЁЎ будзе мець свой універсітэт. Калегія Міністэрства адукацыі Беларусі пастанавіла перайменаваць мясцовы педінстытут імя А. Куляшова ў Магілёўскі дзяржаўны універсітэт імя А. Куляшова. Задача новай ВНУ — удасканаленне падрыхтоўкі спецыялістаў вышэйшай адукацыі і павышэнне кваліфікацыі навукова-педагагічных кадраў.

## СЛАЎНЫ ГОРАД НА БЯРЭЗІНЕ







**Шмат чаго пабачыў горад на сваім вяку. Былі ў яго гісторыі слаўныя старонкі, звязаныя з вялікімі падзеямі, з жыццём вядомых людзей. Адна з іх — крэпасць, пабудаваная ў пачатку мінулага стагоддзя, якая стала месцам службы дзекабрыстаў Бястужава-Руміна, Мураўёва-Апостала. Тут нараджаліся іх вольналюбівыя ідэі, планы звяржэння цара. Але ім не суджана было збыцца.**

**Горад стаіць на бойкім месцы. Чыгуначныя і шасейныя шляхі, паўнаводная рака спрыялі яго развіццю. Цяпер у ім каля пяцідзесяці прамысловых прадпрыемстваў, больш як дваццаць будаўнічых арганізацый, іншыя прамысловыя, бытавыя, культурныя аб'екты.**

**У Бабруйску развітая дрэваапрацоўчая, харчовая, лёгкая, хімічная, машынабудаўнічая прамысловасць. Славяцца сваёй прадукцыяй "Сельмаш", гарбарны камбінат, завод трактарных дэталяў і агрэгатаў, футравая фабрыка. Тут дзейнічае буйнейшы ў Еўропе шынны камбінат.**

**Сённяшні Бабруйск — значны культурны цэнтр нашай краіны. Тэатр драмы і камедыі, краязнаўчы музей, шматлікія гурты мастацкай самадзейнасці, кінатэатры... Ёсць дзе адпачыць людзям. Ёсць чым ганарыцца. Так, тэатр вядомы з васемнаццатага стагоддзя. У 1760 годзе пры езуіцкім калегіуме працаваў школьны тэатр. У 1852 годзе трупа В. Дуніна-Марцінкевіча паказала знакамітую справу "Сялянка".**

**Подых стагоддзяў адчуваецца ў горадзе вельмі моцна. Але і сённяшні дзень бярэ сваё. Вуліцы, плошчы, скверы набываюць сучасны выгляд. Бабруйск расце і прыгажэе.**

**НА ЗДЫМКАХ: вуліцы сучаснага Бабруйска; Святагеоргіеўская царква.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

***МЫ І НАША ЖЫЦЦЁ***

# ПРОСІМ УСІХ ЗАХОЎВАЦЬ СПАКОЙ

Памятаеце крылаты выраз — "У Багдадзе ўсё спакойна..."? Кажуць, калісьці ў старыя часы падобным чынам, нібы заклінаючы, прыгаворвалі тамашнія, багдадскія вартаўнікі, пагрукваючы бразготкамі, і ліхтаршчыкі, запальваючы агні на начных вуліцах горада. Жыхары прыслухоўваліся да іх размераных галасоў, супакойваліся і мірна засыналі ў сваіх дамах. Хаця, магчыма, недзе побач, у глухім завулку, у гэты час некага рабавалі або і забівалі. Але ж... Тое ў Багдадзе — і даўно... Мы ж жывем у Беларусі — і сёння.

Так, у Беларусі і сёння. Аднак, калі добра прыслухацца, хіба не чуецца: "На Беларусі ўсё спакойна..."?

Калі меркаваць па пакуль яшчэ асветленаму праспекту Скарыны ў Мінску, па бадзёрых галасах дыктараў вячэрніх беларускіх тэленавін, якія рапартуюць пра паспяховую корманарыхтоўку ў асобна ўзятым калгасе ці саўгасе або візіце прэм'ер-міністра са справаздачным дакладам у дом для састарэлых, — справы нашы нядрэнныя. Вось і афіцыйная статыстыка паведамляе: у параўнанні з першым кварталам мінулага года сёлетні аб'ём таварнай прадукцыі ўзрос на 21,6 працэнта, прыбытак ад гаспадарчай дзейнасці склаў паўтара трыльёна беларускіх рублёў, што ў 3,8 раза болей, чым за аналагічны леташні перыяд. Ды і рэнтабельнасць рэалізаванай прадукцыі дасягнула 10,9 працэнта, што таксама на 6,7 пункта вышэй адпаведнага перыяду 1996 года. Але... Гэтыя вечныя "але"... На некаторых беларускіх прадпрыемствах, прычым далёка не самых дробных, рэалізавана меней 50 працэнтаў вырабленай прадукцыі. Напрыклад, на Мінскім вытворчым аб'яднанні па выпуску аўтаматычных ліній — 40,7 працэнта. Павялічыліся астаткі гатовай прадукцыі на складах Мінскага падшыпнікавага завода (на 67 працэнтаў), славутага мінскага "Гарызонта" — прадпрыемства па вырабу тэлевізараў (на 84,4 працэнта), Брэсцкага электралямпавага завода (на 52,9 працэнта). Скараціўся аб'ём экспарту ў далёкае замежжа, імпарт жа, наадварот, павялічыўся.

Захоўваецца складанае становішча з энерганосьбітамі. Нядаўна за гэта, а можа і яшчэ за што паплаціўся пасадай чарговы міністр. Краіна атрымлівае звонку львіную частку ўсіх неабходных ёй энерганосьбітаў, доля якіх у агульнай структуры беларускага імпарту складае 60 працэнтаў. Акрамя таго, апошнім часам у айчыннай энергетыцы ўсё больш становіцца адчувальным недахоп вытворчых магутнасцей. Па некаторых звестках, прыкладна палова існуючых электрастанцый і кацельных ужо выпрацавала свой рэсурс, а да 2010 года, калі нічога не прадпрымаць, гэтая лічба вырасце да 90 працэнтаў, у сувязі з чым кіраўніцтва Беларусі, навукоўцы пачалі актыўнае абмеркаванне магчымасці будаўніцтва ўласнай атамнай электрастанцыі. Адпаведныя слуханні праходзілі ў палатах Нацыянальнага сходу. Але парламентарыі так і не прыйшлі да згоды. Думкі падзяліліся, прычым досыць прынцыпова. Дыскусію плануецца працягнуць пазней. Тады ж, магчыма, будзе прынята і канкрэтнае рашэнне. А пакуль...

Пакуль у Гомельскім раёне на магістральным нафтапрадуктаправодзе, які належыць расійскай акцыянернай кампаніі "Транснафтапрадукт", чарговая аварыя. Ад яе пацярпелі не меней 70 гектараў акаляючай тэрыторыі. Існуе меркаванне, што прычынай цяперашняга здарэння, як, дарэчы, і папярэдняга тут жа, стала звычайная зношанасць труб. Хутчэй за ўсё расійская кампанія атрымае свой штраф, але для экалогіі чарнобыльскай Гомельшчыны ад гэтага лягчэй не будзе.

Сярод найбольш балючых застаюцца на Беларусі і праблемы, звязаныя з ростам інфляцыі і рэгуляваннем курсу нацыянальнай валюты. Па словах старшыні праўлення Нацбанка Генадзя Алейнікава, на пачатку года адбыўся "абвал" "зайчыка", але зараз, сцвярджае ён, наступіла стабілізацыя.

Захоўваюцца цяжкасці з прыцягненнем інвестыцый. На знешнія крыніцы сёння амаль ніякай надзеі няма. А таму робіцца стаўка на грошы, што ёсць унутры краіны, у тым ліку і на зберажэнні насельніцтва. Нацбанк лічыць: на руках у грамадзян знаходзіцца ад 2 да 5 мільярдаў долараў (трымаць свае "запасы" ў беларускіх грашах беларус пакуль не жадае). Дарэчы, прырост тэрміновых рублёвых зберажэнняў насельніцтва ў банках у параўнанні з мінулым перыядам зменшыўся на 23,5 працэнта, затое валюты набыта больш, чым на 10 трыльёнаў беларускіх рублёў. Можа таму сёння свабодна купіць канвертуемую валюту стала задачай амаль немагчымай. Шматлікія абменныя пункты нядаўна яе проста перасталі прадаваць. Прыняць долары ці маркі ў грамадзяніна — калі ласка, а вось прадаць — ні-ні. Такім чынам, кіраўніцтва краіны прымушае насельніцтва "палюбіць" уласны грашовы "звярынец". Вось толькі, кажучы па-руску, "насильно мил не будешь". Хаця, магчыма, "стерпится — слюбится".

Практычна поўны штыль назіраецца ў прыватызацыйным працэсе. Па дакументах Савета Міністраў, плануецца завяршыць так званую малую прыватызацыю да канца 1997 года. Але бачачы, якімі тэмпамі ўсё рухаецца, у рэальнасць задуманага, здаецца, не верыць ніхто. Калі за другое паўгоддзе мінулага года ў Мінску было выстаўлена на аўкцыёны 33 дзеючыя прадпрыемствы, а прададзена 23, то сёлета прапанавана для продажу толькі сем. Хаця трэба адзначыць, Мінск на агульным прыватызацыйным фоне ў параўнанні з іншымі выглядае яшчэ даволі прыстойна. Мінскія ўлады нават згадзіліся выставіць на аўкцыён некалькі сацыяльна значных гістарычных пабудоў у цэнтры горада. Канешне, робіцца гэта не ад вялікага "рыначнага свербу", проста ў сталічнай казне няма грошай на іх рэканструкцыю. Калі ж сядзець, як сабака на сене, які і сам не гам і другому не дам, то можна згубіць будынкі ўвогуле. Тым больш асабліва хваляваецца няма чаго: Беларусь тая краіна, дзе нацыяналізацыя прыватызаванага — не такая вялікая складанасць. Было б жаданне. А адпаведнае рашэнне прыняць не праблема. Нядаўна Камітэт дзяржкантролю пасля чарговай праверкі заявіў: не выключана вяртанне некаторых раней прыватызаваных прадпрыемстваў грамадскага харчавання назад пад крылы (кіраванне і кантроль) дзяржавы. Хаця нават беглае знаёмства з прыватызаваным гандлем і паслугамі сведчыць: яны значна больш прывабныя для насельніцтва, бо імкнуцца працаваць па сучасных мадэлях і агульнапрынятых ва ўсім свеце крытэрыях. І калі ў прыватным магазіне вы будзеце хутчэй за ўсё жаданым госцем, то ў агульнанародным ніякая ў свеце сіла не прымусіць дзяржаўную прадаўшчыцу вам усміхнуцца.

Дарэчы, пра ўсмешкі. Сапраўды, застаецца толькі ўсміхнуцца, праўда, сумна, прачытаўшы, што Рэспубліканскі міжведамасны савет па правядзенню жыллёвай рэформы, абмеркаваўшы канцэпцыю прэзідэнцкай праграмы "Жыллё", унёс некаторыя дапаўненні. У прыватнасці, вырашана: да 2000 года жыллём (не дамамі ці нейкімі асаблівымі апартаментамі, а менавіта "жыллём") павінны быць забяспечаны ўсе інваліды і ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, якая, між іншым, скончылася больш чым паўстагоддзя назад. Таксама ёсць меркаванне вярнуць у якасці новага саюзнага (беларуска-расійскага) стары саюзны ("эсэсэсэраўскі") гімн. Мабыць, для поўнага шчасця ветэранаў...

"У Багдадзе ўсё спакойна..."
У Беларусі — таксама.

**Г. БРАТКО.**

# «ЗМОВА» Ў ЧЫРВОНАЙ АРМІІ

Заканчэнне.
Пачатак у № 26.

Заява датавана 26 мая — чацвёртым днём пасля арышту. Гэтай жа датай памечаны яшчэ два дакументы, таксама ўласнаручна выкананыя — заява наркому ўнутраных спраў Яжову. Вось што ў заяве Яжову: "Будучы арыштаваным 22 мая, прыбыўшы ў Маскву 24, упершыню быў дапытаны 25-га і сёння, 26 мая, заяўляю, што прызнаю наяўнасць антысавецкай змовы і тое, што я быў на чале яе. Абавязваюся самастойна расказаць следству ўсё, што тычыцца змовы, не ўтойваючы нікога з яго ўдзельнікаў, ніводнага факта і дакумента.

Падстава змовы адносіцца да 1932 года. Удзел у ёй прымалі: Фельдман, Алуфуза, Прымакоў, Путна і інш., пра што я падрабязна пакажу дадаткова".

Тухачэўскі піша, што ў 1932 годзе ў яго былі вялікія незадавальненні яго становішчам у наркамаце. Тады і з'явілася думка: з дапамогай даўняга свайго саслужыўца Фельдмана, які ўзначальваў у наркамаце кадравую работу, адабраць групу асоб вышэйшага камсаставу, якая магла б забяспечыць большы ўплыў яго, Тухачэўскага, у арміі. Першапачаткова ў гэтай арганізацыі трацкісцкага ўплыву не было, але ў далейшым ён быў прыўнесены Путнам і Прымаковым, якія бывалі за мяжой, дзе падтрымлівалі сувязь з Троцкім. Мэта змовы — захоп улады ў арміі. Натхніцелем яго быў Енукідзе, які давяраў Тухачэўскаму і ганарыўся ім як сваім вылучэнцам (Тухачэўскі пачаў службу ў Чырвонай Арміі ў пачатку 1918 года ў ваенным аддзеле ВЦВК, якім загадваў у той час Енукідзе). Стараліся шкодзіць у галіне ўзбраенняў.

27 мая Тухачэўскі ўласнаручна звяртаецца з заявай да Ушакова, дзе раскайваецца ў тым, што ва ўчарашніх паказаннях сказаў не ўсё: "Так як мае злачынствы бязмерна вялікія і подлыя, бо я асабіста і арганізацыя, якую я ўзначальваў, займаліся шкодніцтвам, дыверсіяй, шпіянажам і здраджвалі радзіме, я не мог стаць на шлях чыстасардэчнага прызнання ўсіх фактаў... Прашу даць мне магчымасць прадыктаваць стэнаграфістцы, прычым запэўніваю вас словам гонару, што ніводнага факта не ўтаю..."

Сёння можна сказаць напэўна, што абяцаныя Тухачэўскім у заяве Яжову ад 26 мая "факты і дакументы" ў справе адсутнічаюць.

Была, вядома, акрамя саміх абвінавачваемых і пацярпеўшых, яшчэ адна група людзей, якія маглі б адказаць на назойлівае і не вырашанае да самага канца пытанне: а навошта ж усе-такі яны самі на сябе напісалі? Гэта тыя, хто вяршыў следства і суд. Але іх сёння нікога ўжо ў жывых не засталося, і пісьмовыя свае сведчанні на гэты конт яны наўрад ці пакінулі.

Аднак нявінныя ахвяры, па народнаму павер'ю, маюць звычку прасіць аб адплаце, і яна ў сваю чаргу рана ці позна прыходзіць. Спасцігла яна і капітана дзяржбяспекі Ушакова (Ушамірскага) Зіновія. Ён сам быў у 1938 годзе арыштаваны, прызнаўся на следстве ў тым, што з'яўляўся агентам германскіх разведорганаў, быў прыгавораны да вышэйшай меры і расстраляны.

Ва ўласнаручных паказаннях, скардзячыся на збіванні, Ушакоў пісаў, што ён здаўся фізічна, таму што не выносіў не толькі пабояў, але і напамінкаў аб іх. "Можна смела сказаць, што пры такіх збіваннях валявыя якасці чалавека, якімі вялікімі яны б ні былі, не могуць служыць імунітэтам ад фізічнага бяссілля, за выключэннем, можа быць, асобных рэдкіх экземпляраў людзей... Мне здавалася раней, што ні пры якіх абставінах я б не даваў ілжывых паказанняў, а вось вымусілі мяне... Мне самому даводзілася біць у Ляфортаўскай ворагаў партыі і Савецкай улады, але ў мяне не было ніколі такога ўяўлення аб пакутах і пачуццях, якія зведваеш пры гэтым".

Далей Ушакоў пісаў з гонарам, што ён выбіў з Фельдмана паказанне аб ваеннай змове, на падставе якога 21 ці 22 мая адбылося рашэнне ЦК аб арышце Тухачэўскага і шэрагу іншых. Расказваючы і далей пра свае "заслугі", Ушакоў пахваліўся, што нават у дзень працэсу, раніцай, ён атрымаў ад Тухачэўскага дадатковае паказанне аб Апанасенку і некаторых іншых. Калі арыштаваныя Аронштам і Фішман нічога не расказалі іншым следчым, Ушакоў папрасіў перадаць іх яму і ўжо на наступны дзень меў тое, чаго дабіваўся.

Прымяняліся вытанчаныя метады не толькі фізічнага, але і маральнага ўздзеяння на арыштаваных. Уratаколе допыту ў якасці сведкі былога работніка асобага аддзела Вула А. ад 2 ліпеня 1956 года ёсць такая падрабязнасць. "Асабіста я, — паказаў сведка, — бачыў Тухачэўскага ў калідоры дома 2, калі яго вялі на допыт да Ляплеўскага. Апрануты ён быў у выдатны шэры цывільны касцюм, а зверху яго быў апрануты арыштанцкі армяк з шынельнага сукна, а на нагах лапці. Як я зразумеў, такі касцюм на Тухачэўскага быў надзеты, каб прынізіць яго".

## СУД

Пасяджэнне Спецыяльнай судовай Установы Вярхоўнага Суда СССР, адбылося 11 чэрвеня 1937 года. Старшынстваваў армваенюрыст В. Ульрых.

Падсудным растлумачылі: справа слухаецца ў парадку, установленым законам ад 1 снежня 1934 года. Гэта азначала, што ўдзел абаронцы ў судовым працэсе выключаецца, прыгавор канчатковы і абскарджанню не падлягае...

Стэнаграма змяшчала ўсяго некалькі старонак, якія сведчылі аб прымітыўнасці разбіральніцтва з такімі цяжкімі і шматлікімі абвінавачваннямі. Ды і той факт, што "працэс" працягваўся адзін дзень, гаварыў сам за сябе. Пераказваць увесь змест стэнаграмы няма неабходнасці. Каб лепш уявіць сабе, якія паказанні давалі падсудныя па тым ці іншым пункце абвінавачвання, іх згрупавалі. І вось што атрымалася.

Тухачэўскі перш за ўсё заявіў: "У мяне была гарачая любоў да Чырвонай Арміі, гарачая любоў да айчыны, якую з грамадзянскай вайны абараняў... Што тычыцца сустрэч, гутарак з прадстаўнікамі нямецкага генеральнага штаба, іх ваеннага аташэ ў СССР, то яны насілі афіцыйны характар, адбываліся на манеўрах, прыёмах. Немцам паказвалася наша ваенная тэхніка, яны мелі магчымасць назіраць за зменамі, што праходзілі ў арганізацыі войск, іх аснашчэнні. Да прыходу Гітлера да ўлады нашы адносіны з Германіяй былі ўзаемна зацікаўленымі".

Аналагічныя паказанні аб адносінах да Радзімы далі Убарэвіч, Корк, Фельдман, Якір, Путна. Якір паведаміў, што вучыўся ў 1929 годзе ў акадэміі генеральнага штаба Германіі, чытаў там лекцыі аб Чырвонай Арміі, а Корк некаторы час выконваў абавязкі ваеннага аташэ ў Германіі.

Высвятляецца і такое пытанне: ці падзялялі падсудныя погляды лідэраў трацкізму, правых апартуністаў, іх платформы? На гэтае пытанне Тухачэўскі адказаў: "Я заўсёды, ва ўсіх выпадках выступаў супраць Троцкага, гэтак жа сама выступаў супраць правых".

Путна не адмаўляў "наяўнасць сувязей" са Смірновым, Фельдманам, Пятаковым. Характар гэтых сувязей не высвятляўся.

Было вынесена і другое цяжкае абвінавачванне — шкодніцтва з мэтай аслаблення магутнасці Чырвонай Арміі. Тухачэўскі, Якір, Корк, Убарэвіч растлумачылі, што будаўніцтва ваенных аб'ектаў, рэканструкцыя чыгуначных вузлоў, фарміраванне паветрана-дэсантных часцей і г. д. сапраўды ішло марудна. Былі недахопы і ўпушчэнні ў баявой падрыхтоўцы войск. Тухачэўскі растлумачыў: "Калі б крыху паднацiснулі і дадатковыя сродкі нам далі, наша становішча надзвычай моцна выйграла б".

Шкодніцтва з боку Тухачэўскага і Убарэвіча і Якіра, якія актыўна падтрымлівалі яго, расцэньвалася як настойлівае ўкараненне канцэпцыі паскоранага фарміравання танкавых злучэнняў за кошт скарачэння колькасці і расходаў на кавалерыю. З рэзкім асуджэннем такой канцэпцыі выступіў на судзе С. Будзённы.

Ульрых нязменна пытаўся: "Вы пацвярджаеце паказанні, якія давалі на допыце ў НКУС?" Калі Тухачэўскі, Якір, Корк, Убарэвіч спрабавалі нешта растлумачыць, Ульрых спыняў: "Вы не чытайце лекцый, а давайце паказанні". Аднак падсудныя працягвалі сцвярджаць, што яны невінаватыя, што будучая вайна будзе вайной матораў...

Нарэшце высвятлялася пытанне: ці была ў падсудных змова наконт адхілення К. Варашылава ад кіраўніцтва Чырвонай Арміяй. Тухачэўскі, Убарэвіч, Корк, Путна прызналі, што размовы аб адхіленні Варашылава між імі вяліся. Убарэвіч удакладніў: калі вырашылі паставіць ва ўрадзе пытанне аб Варашылаве, то "нападаць на яго па сутнасці дамовіліся з Гамарнікам, які сказаў, што моцна выступіць супраць Варашылава".

Чаму хацелі выступіць супраць Варашылава? Якія памылкі і ўпушчэнні маглі быць пастаўлены ў віну наркому? На судзе гэтага не высвятлялі. Жаданне ж падсудных звярнуцца ва ўрад расцанілі як выношванне тэрарыстычных намераў у адносінах да Варашылава.

Калі падсудным прадаставілі "апошняе слова", усе яны, за выключэннем Прымакова, заявілі аб сваёй адданасці справе рэвалюцыі, Чырвонай Арміі, асабіста таварышу Сталіну.

Неверагодным па свайму зместу аказалася "апошняе слова" Прымакова:

---

## ИЗ ОПРЕДЕЛЕНИЯ ВЕРХОВНОГО СУДА СОЮЗА ССР № 4н — 0280/57

**Военная коллегия Верховного суда СССР**

**в составе: председательствующего — генерал-лейтенанта юстиции Чепцова А. А.**

**членов: полковника юстиции Борисоглебского В. В. и полковника юстиции Лихачева П. А.,**

**рассмотрела в заседании от 31 января 1957 года —**

**ЗАКЛЮЧЕНИЕ ГЕНЕРАЛЬНОГО ПРОКУРОРА СОЮЗА ССР**

**на приговор Специального судебного Присутствия Верховного Суда СССР от 11-го июня 1937 года, которым**

**осуждены по ст. ст. 58-1 "б", 58-8 и 58 — II УК РСФСР к высшей мере наказания — расстрелу, с конфискацией имущества и лишением присвоенных им воинских званий —**

**1. Тухачевский Михаил Николаевич, 1893 года рождения, бывший Зам. Наркома Обороны СССР, Маршал Советского Союза;**

**2. Корк Август Иванович, 1888 года рождения, бывший начальник Академии им. Фрунзе, командарм 2 ранга;**

**3. Якир Иона Эммануилович, 1896 года рождения, бывший командующий войсками Киевского военного округа, командарм I ранга;**

**4. Уборевич Иероним Петрович, 1896 года рождения, бывший командующий войсками Белорусского военного округа, командарм I ранга;**

**5. Путна Витовт Казимирович, 1893 года рождения, бывший военный атташе СССР в Великобритании, комкор;**

**6. Эйдеман Роберт Петрович, 1893 года рождения, бывший председатель Центрального Совета Осоавиахима СССР, комкор;**

**7. Примаков Виталий Маркович, 1897 года рождения, бывший Заместитель командующего войсками Ленинградского военного округа, комкор;**

**8. Фельдман Борис Миронович, 1890 года рождения, бывший начальник Управления по начсоставу РККА, комкор...**

**Анализ показаний осужденных дает основание сделать вывод о том, что эти показания о руководящем центре "заговора", о составе участников заговора и времени его возникновения являются вымышленными и не отвечающими действительности.**

**Также неконкретны и противоречивы показания осужденных о вредительстве, о подготовке террористических актов против руководителей Партии и Правительства и о шпионских связях с иностранными разведками. Все эти показания представляют собою голословные утверждения в общей форме, без подкрепления их фактами и какими-либо объективными данными.**

**Все усилия следствия, как это видно из материалов дела, были направлены лишь к одной цели — добиться от арестованных признания ими своей вины...**

**Заслушав доклад тов. Лихачева П. А. и заключение Зам. Главного Военного Прокурора — полковника юстиции Терехова Л. П. — об отмене приговора и прекращении дела, —**

***УСТАНОВИЛА:***

***Тухачевский, Якир, Уборевич, Корк, Путна, Эйдеман, Примаков и Фельдман судом были признаны виновными в том, что они, являясь руководителями "военно-фашистского заговора" в Красной Армии и будучи организационно связанными с антисоветским правотроцкистским центром, подготовляли свержение советской власти путем вооруженного восстания и поражения СССР в будущей войне в целях восстановления в СССР власти помещиков и капиталистов и отторжения от СССР части территории в пользу Германии и Японии. В этих целях они систематически передавали германскому генеральному штабу совершенно секретные сведения, проводили вредительскую работу в области боевой подготовки и оснащения Красной Армии и в оборонной промышленности, а также создали террористические группы для подготовки террористических актов против руководителей Коммунистической партии и Советского правительства...***

***Военная коллегия Верховного Суда СССР, изучив материалы дела и дополнительной проверки, считает бесспорно установленным, что уголовное дело в отношении Тухачевского, Корка, Якира и других по обвинению их в антисоветской деятельности было сфальсифицировано.***

***На основании изложенного и руководствуясь ст.ст. 373—378 УПК РСФСР —***

***ОПРЕДЕЛИЛА:***

***приговор Специального судебного Присутствия Верховного Суда СССР от 11 июня 1937 года в отношении Тухачевского Михаила Николаевича, Корка Августа Ивановича, Якира Ионы Эммануиловича, Уборевича Иеронима Петровича, Путна Витовта Казимировича, Эйдемана Роберта Петровича, Примакова Виталия Марковича и Фельдмана Бориса Мироновича отменить и настоящее дело в силу ст. 4 п. 5 УПК РСФСР, т. е. за отсутствием в их действиях состава преступления, производством прекратить.***

**Председательствующий А. А. ЧЕПЦОВ**
**Члены военной коллегии В. В. БОРИСОГЛЕБСКИЙ,**
**П. А. ЛИХАЧЕВ.**

"Я павінен сказаць апошнюю праўду аб нашай змове. Ні ў гісторыі нашай рэвалюцыі, ні ў гісторыі іншых рэвалюцый не было такой змовы, як наша, ні па мэтах, ні па складу, ні па сродках, якія змова для сябе выбрала. З каго складаецца змова? Каго аб'яднаў фашысцкі сцяг Троцкага? Ён аб'яднаў усе контррэвалюцыйныя элементы, усё, што было контррэвалюцыйнага ў Чырвонай Арміі, сабралася ў адно месца, пад адзін сцяг, пад фашысцкі сцяг Троцкага. Якія сродкі выбрала сабе змова? Усе сродкі: здрада, паражэнне сваёй краіны, шкодніцтва, шпіянаж, тэрор. Для якой мэты? Для ўзнаўлення капіталізму. Шлях адзін — ламаць дыктатуру пралетарыяту і замяняць фашысцкай дыктатурай. Якія ж сілы сабрала змова для таго, каб выканаць гэты план? Я назваў следству больш 70 чалавек-змоўшчыкаў, якіх завербаваў сам ці ведаў па ходу змовы... Я склаў сабе меркаванне аб сацыяльным твары змовы, г. зн. з якіх груп яна складаецца, яе кіраўніцтва, цэнтр. Людзі, што ўваходзяць у змову, не маюць глыбокіх каранёў у нашай Савецкай краіне, таму што ў кожнага з іх ёсць свая другая радзіма: у Якіра — радня ў Бесарабіі, у Путны і Убарэвіча — у Літве, Фельдман звязаны з Паўднёвай Амерыкай не менш, чым з Адэсай, Эйдэман — з Прыбалтыкай не менш, чым з нашай краінай..." У захапленне прыйшлі арганізатары гэтага судзілішча. Радаваўся і следчы Аўсяевіч, які падрыхтаваў Прымакова да такой прамовы ў судзе.

Якім мог быць прыгавор? Яго змест быў вырашаны загадам наркома абароны СССР К. Варашылава № 96 ад 12 чэрвеня 1937 года. У ім паведамлялася:

"З 1 па 4 чэрвеня г. г. у прысутнасці членаў урада адбыўся Ваенны савет пры народным камісары абароны СССР. На пасяджэнні Ваеннага савета быў заслуханы і падвергнуты абмеркаванню мой даклад аб раскрытай Народным камісарыятам унутраных спраў здрадніцкай контррэвалюцыйнай фашысцкай арганізацыі, якая, будучы строга законспіраванай, доўгі час існавала і праводзіла подлую, падрыўную, шкодніцкую і шпіёнскую работу ў Чырвонай Арміі". 11 чэрвеня 1937 года Спецыяльная судовая ўстанова Вярхоўнага Суда Саюза ССР прызнала ўсіх падсудных вінаватымі ў парушэнні воінскага абавязку (прысягі), здрадзе Рабоча-Сялянскай Арміі, здрадзе Радзіме і пастанавіла: "Усіх падсудных пазбавіць воінскіх званняў, падсуднага — Тухачэўскага — звання Маршала Савецкага Саюза і прыгаварыць усіх да расстрэлу".

12 чэрвеня 1937 года прыгавор быў прыведзены ў выкананне...

Для чаго ж быў задуманы ўвесь гэты ліпавы, жорсткі і цынічны працэс? Для вынясення ж смяротнага прыгавору не мелі, мяркуючы па ўсім, рэальнага значэння ніякія лагічныя, рэчавыя ці дакументальныя доказы існавання "ваеннага трацкісцкага цэнтра", чаму і не былі дапушчаны да ўдзелу ў працэсе ні пракурор, ні адвакат, ні сведкі. Сталін займаўся гэтай справай асабіста — раней пра гэта можна было здагадвацца, цяпер, па пісьму Прымакова, можна лічыць устаноўленым. Яму хапала агентурнай інфармацыі аб тым, што абвінавачваемыя не верылі ў поспех яго дзецішча — вераломна праведзенай калектывізацыі, ды яшчэ задумвалі спіхнуць яго сябра Варашылава — так яны, чаго добрага, і на яго самога маглі замахнуцца. А незадаволенасць ім спела і ў партыі, і ў грамадстве — ён не мог не ведаць гэтага. Можа быць, уся справа ў тым, што яму трэба было так ашаламіць, так напалохаць усіх іншадумцаў і нязгодных, каб запомнілі і зарубілі сабе на носе: літасці не будзе. Калі ўжо такіх заслужаных, паважаных, аўтарытэтных людзей не памілавалі, то чаго чакаць, на што спадзявацца іншым?

Усё гэта стала, думаецца, урокам жудаснай жорсткасці на многія гады наперад і не магло не адбіцца на псіхалогіі пакаленняў.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**



**Надта ж прыгожа будзе выглядаць Мінск у дні святкавання свайго 930-годдзя. Горад прыбіраюць, добраўпарадкоўваюць. Але і ў буднія дні сталіца Беларусі цешыць вока сваёй утульнасцю і сучаснымі рысамі архітэктурных ансамбляў.**

**НА ЗДЫМКУ: Мінск у раёне перасячэння праспекта Машэрава і вуліцы Багдановіча.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

# БЕЛАРУСКІ ДРУК І «ДЭМАКРАТЫЧНЫ ПАРЛАМЕНТАРЫЗМ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Першым урадам, які жыва зацікавіўся праблемамі нацыянальных меншасцей, быў урад генерала Уладзіслава Сікорскага (16.XII.1922—26.V.1923). Не разлічваючы на хуткія зрухі ў справах нацыянальных, генерал, аднак, зрабіў шэраг важных крокаў у напрамку вывучэння праблемы "крэсаў усходніх" (усходніх зямель). Прыцягваў для гэтага не толькі мясцовы адміністрацыйны апарат, але і ваявод, нават некаторыя цэнтральныя ўпраўленні. Падзенне ўрада Сікорскага спыніла пачатую працу. Правацэнтрысцкая кааліцыя, што прыйшла да ўлады, заняла адназначна нацыяналістычную пазіцыю, дабіваючыся поўнай паланізацыі ўсходніх зямель.

Становішча гэтае, між іншым, падтрымала "Slowo", на старонках якога Уладзіслаў Студніцкі прапанаваў праграму нацыянальнай асіміляцыі беларусаў.

Асаблівае старанне ў яе рэалізацыі праявілі Towarzystwo Strazy Kresowej (TSK) і мясцовая адміністрацыя. Мясцовая адміністрацыя ад ваявод (ці старостаў) да начальнікаў раёнаў кіравала даручанымі ёй участкамі, узгадняючыся са сваімі індывідуальнымі поглядамі, часта знаходзячыся пад уплывам нацыянальнай ці класавай нянавісці.

Адной з важных галін культурна-асветніцкага і палітычнага жыцця, закранутых паланізацыяй, была выдавецкая дзейнасць. Асабліва востра тут стаяла пытанне мовы выдання. Так, ужо ў сакавіку 1921 года праз ваявод старостам было ўказана на абавязковае выкарыстанне польскай мовы ва ўсіх адозвах і зваротах да грамадскасці. Людзі, якія парушалі гэтае распараджэнне, караліся, а выданні канфіскоўваліся.

Нягледзячы на гэта, развіццё беларускамоўнай прэсы ішло досыць інтэнсіўна. Практычна ўсе беларускія выданні друкаваліся кірыліцай. Выключэнне — орган хрысціянскай дэмакратыі "Крыніца" (пазней — "Бяларусская крыніца"), што друкавалася шрыфтам лацінскім.

Важнасць з'яўлення вялікай колькасці беларускамоўных выданняў прызнавала нават перадавіца "Свободной России" ў верасні 1922 года, якая выступала з крытыкай "бедных" беларускіх газет: "Але ёсць у гэтых бедных газетах і вялікія навіны: газеты друкуюцца на беларускай мове, той самай, на якой гавораць у вёсках", хаця многія пісьменнікі прызнавалі цяжкасці з перакладам слоў на беларускую мову.

Нягледзячы ні на што, сярэдзіна 20-х гадоў была самым выніковым перыядам беларускай прэсы. А 1928-мы — год найвышэйшага ўздыму ў выдавецкай справе, верасень 1926-га — год святкавання 20-годдзя беларускай прэсы ў рэзідэнцыі Беларускага Народнага Камітэта сталі магчымымі дзякуючы перыпетыям перыяду дэмакратычнага парламентарызму, перыяду, калі беларуская прэса нястомна набірала абароты:

1921 год — 6,
1922 год — 6,
1923 год — 9,
1924 год — 7,
1925 год — 11,
1926 год — 14 —

беларускіх выданняў на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Большасць выданняў 1921—1926 гадоў насілі літаратурна-папулярны характар (23). Немалую групу складалі і грамадска-палітычныя (19).

Пасля перавароту Ю. Пілсудскага колькасць газет і часопісаў стала змяншацца. Звязаны гэтыя працэсы, у першую чаргу, з агульнай лініяй палітыка-арганізацыйнага ўплыву беларускага руху. Аднак колькасць беларускіх выданняў нават у самыя лепшыя гады не задавальняла чытачоў. Ды і тыя, што былі, на жаль, запатрабоўваліся ў асноўным вельмі вузкай групай беларускай інтэлігенцыі (тое ж можна сказаць, зрэшты, і аб усёй прэсе 20-х гадоў, значнасць якой расла разам з ростам адукаванасці насельніцтва).

У сельскую мясцовасць траплялі ў асноўным выданні грамадска-палітычныя, якія дастаўляліся праз членаў розных партый, а таксама гаспадарчыя, напрыклад "Беларускі Календар", які карыстаўся асобымі сімпатыямі насельніцтва. Большасць выданняў проста не даходзіла да чытачоў. Праяўляючы старанне, альбо дружыннік, альбо пісар гміны, альбо паштовы служачы не выдавалі падпісных выданняў, якія нават выходзілі за кошт уладаў.

Многія нацыянальна-палітычныя арганізацыі мелі свае друкаваныя органы, як, напрыклад, утвораны 10 лістапада 1925 года Беларускі Сялянскі Саюз, што выступіў у абарону сялян і гарадскога пралетарыяту: "Сялянская ніва" і "Беларуская ніва".

У абстаноўцы недахопу малітоўнікаў і падручнікаў па рэлігіяведанню на беларускай мове вялікае значэнне меў выхад беларускага царкоўна-народнага перыядычнага выдання "Праваслаўны беларус" у лютым 1925 года. Тут змяшчаліся артыкулы, што крытыкавалі палітыку ўрада супраць беларусізацыі царквы, якія сталі прычынай яго ліквідацыі ў снежні 1925 года.

Паспяховае існаванне любога выдання залежала не столькі ад фінансавання, колькі ад адносін польскіх уладаў да яго, яго палітычнай і грамадскай пазіцыі. Улады рэдка даравалі крытыку ў свой адрас, іншы раз даходзячы да прамога закрыцця непажаданай рэдакцыі.

"Лодзьская газета" ў сакавіку 1923 года на сваіх старонках цытавала словы старшыні беларускага сеймавага клуба Сяргея Баранава: "Не толькі царква і школа наша церпяць у выніку адміністратарскага гвалту, не свабодная ад гэтага і прэса беларуская. І тры штодзённыя газеты, а менавіта "Беларускія ведамасці", "Наша думка", "Наша будучыня", былі канфіскаваны, так што цяпер у Вільна выходзіць адзінае толькі "Новае жыццё". К канцу года была закрыта таксама рэдакцыя "Новага жыцця", "Сахі", "Нашага сцяга", "Вольнага сцяга", "Змагання". На працягу толькі 1923 года было прыпынена выданне 7 з 9 існуючых назваў сродкаў масавай інфармацыі. А ўсяго за два з паловай гады (1923—1925) было закрыта 15 перыядычных выданняў і канфіскавана 50 з 300 нумароў газет.

Не выпадкова Лучанін М. лічыў, што адкрыць незалежную беларускую газету ўсё роўна, што сесці ў турму: "Выдаваць беларускую незалежную газэту ў Польшчы проста немагчыма, затое дэфэнзыўная беларуская газэта чуе сябе зусім добра".

Часта рэдакцыі беларускамоўных выданняў і не спрабавалі высветліць зачэпку, што паслужыла прычынай закрыцця газеты, а пачыналі неадкладна выдаваць газету пад новай назвай. Колькасць часова прыпыненых ці закрытых беларускіх рэдакцый была надзвычай вялікай і тычылася ледзь ці не кожнай газеты, што выходзіла з 1918 па 1939 год.

Зрэшты, гэтыя ж праблемы закраналі і праўрадавыя газеты і часопісы. Прыкладам таму могуць служыць два перыядычныя органы Аб'яднання Беларускіх Беспартыйных Актывістаў: "Беларускі шлях" (1921 год) і "Сялянская гутарка" (канец 1921 года). Польскія ўлады былі незадаволены вынікамі дзейнасці арганізацыі і ў канцы 1922 года значна абмежавалі, а ў 1923 годзе ўвогуле спынілі фінансаванне, што прывяло да яе закрыцця.

Вядучым выдавецкім цэнтрам Заходняй Беларусі была Вільня, якая з'яўлялася не толькі цэнтрам распаўсюджвання варшаўскага ўплыву і любімым месцам Ю. Пілсудскага, але і гняздом самасвядомасці, што зараджалася ў літоўцаў, татар, яўрэяў і, асабліва — беларусаў. "З усіх беларускіх асяродкаў, якія ўтварыліся за межамі БССР у пачатку 20-х гадоў, Вільня зноў вылучалася тым, што тут палітычныя сілы адраджэння дзейнічалі, абапіраючыся на актыўную народную масу, і спаборнічалі між сабою за прызнанне ў народзе" (Калеснік У.).

У 1923 годзе "Ateneum Wilenskie" з захапленнем пісаў: "З сапраўднай радасцю трэба вітаць выдавецкі рух, што абуджаецца ў Вільні. Пасля стольніх гадоў вымушанага застою..."

Такім чынам, большая частка беларускіх выданняў выходзіла на тэрыторыі Віленскага ваяводства. Спарадычныя — у Навагрудскім. Гэта залежала, галоўным чынам, ад лакалізацыі выдавецтваў, выдавецкіх таварыстваў, а таксама месца кампактнага пражывання беларускай інтэлігенцыі.

Адным з найбольш буйных выдавецтваў было Беларускае Выдавецкае Таварыства, што з'явілася яшчэ ў ліпені 1913 года ў Вільні. Тут выдаваліся газеты, літаратурныя работы, навукова-папулярная літаратура, альбомы і календары. Таварыства існавала за кошт уласных сродкаў — даходаў. Гады яго працвітання звязаны з перыядам існавання Грамады (1925—1927), калі тут выдавалася большасць друкаванай прадукцыі партыі.

У справе рэалізацыі беларускай друкаванай прадукцыі найбольшых поспехаў дасягнула беларуская кніжная крама "Пагоня", што адкрылася ў 1924 годзе ў Вільні. Асабліва добра ішлі справы ў 1925—1927 гадах, калі дзейнічала Грамада. Потым кантроль з боку ўрада ўзмацніўся, выданні пачалі канфіскоўвацца.

Сур'ёзны паварот да лепшага ў выдавецкай справе мог адбыцца ў міжваеннай Польшчы тады, калі на палітычную арэну пачало выходзіць маладое пакаленне, што вырасла ў незалежнай польскай дзяржаве і думала катэгорыямі не толькі свайго рэгіёна, але і агульнадзяржаўнымі, сфарміраванымі ў новых абставінах этыка-маральнымі і ідэйна-палітычнымі поглядамі.

Адмоўна адбілася на далейшым лёсе маладой дзяржавы тое, што дэмакратычным пачынанням быў пакладзены канец, перш чым дэмакратыі змаглі навучыцца, перш чым яна змагла ўзмацнець.

У палітыцы ў адносінах да беларускага перыядычнага друку ярка адбіліся базавыя пазіцыі ў адносінах да меншасцей, што "падвяргаліся сістэматычнаму ўшчамленню" правоў.

Спроба інтэграцыі зямель Рэчы Паспалітай II, распачатая і праз прэсу, правалілася: нацыянальныя меншасці на ўсходзе асіміляваць не ўдалося. Больш таго, уладанне ўсходнімі землямі стала фактарам паступовага рэгрэсу Польшчы і развіцця нацыяналістычных скажэнняў у вызваленчым руху, нарастання ўзаемнай нянавісці.

**Вольга КАРАНЕЎСКАЯ.**

ПОШУКІ, ВЕРСІІ

# ПРА ВЕШЧЫХ ПЕСНЯРОЎ, ФАРТУНУ РАДЗІВІЛАЎ І САКРЭТЫ СТАРЫХ РАДАВОДАЎ

Пры адступленні "Вялікай Арміі" князь Дамінік быў залічаны маёрам у полк лёгкай кавалерыі напалеонаўскай гвардыі, захаваўшы і ранейшы чын палкоўніка (па арміі). У снежні з цяжкасцю дабраўся да Вільні, адтуль у Варшаву і далей — на захад. Траскучыя маразы страшнай зімы не астудзілі яго ваяўнічы запал. У зорку Напалеона верыў па-ранейшаму. Вызначыўся ў бітве пад Лютцэнам (2.5.1813), біўся пад Рэйхенбахам (22.5.1813), Дрэздэнам (27.8.1813), Лейпцыгам (18—19.10.1813). Выказаўся за тое, каб рэшткі польскіх войскаў адступілі з Напалеонам за Рэйн. Там і знайшоў, калі ўжыць слова Ф. Багушэвіча, свой крэс. 30 кастрычніка 1813 года ў адчайнай шабельнай атацы на баварскія гарматы пад Ганау ён быў смяротна паранены карцеччу ў галаву і праз колькі дзён сканаў. Яму толькі-толькі стукнула 27 гадоў (раўнютка ў такім жа ўзросце памёр у свой час і бацька). Напалеон і "кароль кавалерыі" Мюрат цанілі Дамініка Радзівіла як маладзецкага, таленавітага кавалерыста. Ён быў ушанаваны ордэнам Ганаровага легіёна і іншымі баявымі рэгаліямі. Але генералам, дадазім, не стаў.

Вядома ж, напалеанісцкія ідэі магната павінны былі закрануць і яго падданых. Ды і без таго напалеонаўскі культ быў досыць пашыраны сярод тагачаснай беларускай шляхты, у значнай ступені паланізаванай. Пра гэта чытаем у "Пане Тадэвушу". Яшчэ перад вайной, як відаць з паэмы, здаралася, найбольш спрытныя і нецярплівыя дзецюкі са шляхецкіх засценкаў (асабліва калі хто правініўся перад уладамі) уцякалі за Нёман, каб далучыцца да палякаў у войсках Напалеона.

**Такія то гаворкі па краі хадзілі,**
**Яны з палацаў дый з хат дзецюкоў манілі,**
**Не адзін, то пачуўшы, сваіх адчураўся,**
**Штоб маскаль не угледзеў, па лесе бадзяўся;**
**Дабег к Нямну, даў нурка — паляздь! — даплывае**
**На другую старонку, землякоў вітае;**
**А пасля, зняўшы шапку, маскалям з прыгора**
**Кажа: "Будзьце здаровы! пабачымся скора!"**
*(Пераклад В. Дуніна-Марцінкевіча).*

Ды і ў найноўшай "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (т. 1, с. 74) можна прачытаць: "З часоў аўстра-франка-польскай вайны 1809 года вялікая колькасць шляхецкай моладзі, нягледзячы на забароны і рэпрэсіўныя меры (секвестры і канфіскацыі маёнткаў), эміградала ў герцагства і паступіла служыць у польскае войска".

І вось — вайна, якая, вядома ж, па-рознаму ўспрымалася ў Расіі, Польшчы, на Беларусі. "Вялікая Армія" Напалеона прынесла ў край не толькі модныя спакусслівыя ідэі, але і самыя празаічныя рабункі і гвалты. Незлічоная шматмоўная войска хацела яесці, да таго ж не прапускала выпадку па дарозе на Маскву разжыцца сякім-такім дабром. Хвалюючыя дэкларацыі разыходзіліся з рэчаіснасцю. Гэта выклікала насцярожанасць, а то і варожасць насельніцтва. Польскі генерал Касецкі пісаў з Нясвіжа: "Па праўдзе, мы не сустракаем у тутэйшых жыхароў прыхільнасці, на якую маглі б спадзявацца..." (М. Кукель. "Вайна 1812 года". Т. 1. Кракаў. 1937, с. 382, на польскай мове). З прыходам французаў у Літве-Беларусі пачаліся арганізаваныя мабілізацыі і вярбункі, молах вайны патрабаваў усё новых ахвяр. Ужо цытаваны польскі даследчык М. Кукель лічыў, што на захадзе былога ВКЛ "былі варункі развіцця вялікага збройнага руху на напалеонаўскім баку пры кіраўніцтве пераважнай часткі шляхты-ўладальнікаў з мабілізацыяй усёй дробнай шляхты..." На стары, яшчэ феадальны манер: бацька-сіньёр на чале сваіх паслухмяных, аддадзеных "васалаў" з шляхецкіх засценкаў. Аднак той жа Кукель прызнае, што разлікі Напалеона на сур'ёзныя падмацаванні з Літвы ў поўнай меры не спраўдзіліся. "Разам з тым, — піша сур'ёзны, аб'ектыўны гісторык, — ішлі ў Вільню з Дзвіны і пазней з Дняпра усё больш горкія і нецярплівыя запытанні Напалеона: што робяць ліцвіны? Паступова імператар мусіў усвядоміць сабе прыкрую рэчаіснасць: Літва падвяла".

Сітуацыя, як бачым, складаная, неадназначная. Частка арыстакратаў Літвы-Беларусі (Міхал Клеафас Агінскі, колішні касцюшковец, аўтар "Паланеза") не верыла ў Напалеона і свядома арыентавалася на саюз з Расіяй.

З другога боку, зразумела, у магната Дамініка Радзівіла, які ўпарта ішоў да сваёй мэты, былі ўсе неабходныя рычагі, каб націснуць у адпаведным кірунку на цалкам залежную ад яго чыншавую шляхту. Проста немагчыма ўявіць сабе, каб усё гэта неяк не закранула сям'ю Івана Луцэвіча, у якога перад вайной былі чатыры сыны, скажам па-сучаснаму, прызыўнога ўзросту (Францішку 27, Язэпу 25, Дамініку 22, Станіславу 20 гадоў). Гэта ж хлопцы як на падбор. Што называецца, маладзец к малайцу. Нехта з іх у тых умовах абавязкова мусіў трапіць хоць на кароткі тэрмін у войска Дамініка Радзівіла ці іншыя падраздзяленні, якія фарміраваліся пад сцягам дэкларавана Напалеонам Часовага ўрада Літвы. Нехта не паспеў скінуць мундзір з прыходам рускіх войскаў. Прынамсі, малодшы (з пералічаных) Стась, можна думаць, адступіў разам з Радзівілам і яго хаўруснікамі ў Еўропу і загінуў там у адной з бітваў ("умрэ 1813 год"). Або памёр далёка ад дому ад хвароб-нягодаў. Гэта, паўтараем, пакуль што ўсяго толькі рабочая гіпотэза, заснаваная на аналізе агульнай сітуацыі. Стася, які не пакінуў патомства, пазней не змяшчалі нават у радаводных Луцэвічаў, можа, каб не было лішніх роспытаў.

Галава сям'і Іван Юр'евіч таксама, як мы бачылі, "умрэ 1813-го". Узрост у яго быў вельмі немалады, але, хто ведае, можа пайшоў за якога сына або каб падстрахаваць таго ж Стася. Куды не завядзе бацькоўская любоў, страх за родную крывінку. У свой час Віталь Вольскі пісаў у "Матэрыялах да біяграфіі Янкі Купалы" (зб. "Любімы паэт беларускага народа", 1960), што да 1823 года Іван Юр'евіч праўў службу дазорцы ў радзівілаўскім маёнтку Святы Двор, але, з другога боку, мы маем афіцыйны запіс аб яго сконе ў 1813 годзе. Адным словам, ёсць падставы думаць, што продкаў Купалы не абмінуў характэрны для польскай і часткова беларускай шляхты культ Напалеона. Помніце ў паэта: "А на свеце шырокім ліпіся ракамі і слёзы і кроў, калі муж той, празваны што богам вайны, цэлай цьмою палкоў спамаганы, гарматамі збройны, арлы запатыя і срэбны (французскія і польскія. — Г. К.) запрогшы ў сваю калясніцу, пад Альпы пад небы аж з-пад пірамідаў ляцеў і грымеў перунамі у Табар, Марэнго, у Ульм, Аўстэрліц" (пераклад Б. Тарашкевіча). Што, калі і продкаў Купалы зачапіў, падхапіў магутны віхор 1812 года, як і гадоў папярэдніх, час надзей і ілюзій, вялікім пяром увасоблены у "Пане Тадэвушу"...

Магчымасць такога прачытання літаратурных і гістарычных першакрыніц яшчэ больш збліжае паэтычны шэдэўр Міцкевіча з Беларуссю. Дарэчы, у "Пане Тадэвушу" прынамсі двойчы згадваецца непасрэдна сам Дамінік Радзівіл.

У канцы другой кнігі-быліцы адзін з персанажаў Асэсар расказвае пра сваё паляванне з Дамінікам Радзівілам, пра шырокую, шчодрую і дзівацкую натуру маладога князя. Дамінік прыйшоў у сапраўднае захапленне з той нагоды, што паляўнічая сука Асэсара загнала за раз ажно шэсць зайцоў. Вернемся зноў да архаічнага, але дакладнага перакладу Дуніна-Марцінкевіча:

**Справа та на Купіскай дзеялась даліне;**
**Князь Радзівіл дасе́дзець не мог на каніне.**
**Ссеўшы, абняў ён шчыра харціцу ту лоўку**
**І пацалаваў трэйчы ў саму галоўку,**
**Пасля трэйчы ўдарыў каля морды блізка**
**Дый сказаў: "Будзь вялікай княгіняй з Купіска!"**
**Так Напалеон князямі анаралу ставіў**
**Ад мест тых, на каторых сябе хто праславіў".**

Словам, усемагутны Радзівіл шырокім (відаць, усё ж жартоўным) жэстам узвёў псіну-чэмпіёна ў рыцарскі стан і нават параўнаў з самай высокай арыстакратыяй (цікавая тут і травесційная паралель з Напалеонам, які ў выпадку ўдачы гэтаксама ж ганараваў сваіх паплечнікаў высокімі тытуламі). У дадатак уладальнік сабакі Асэсар атрымаў ад Дамініка шчодры дарунак, якім потым любіў ад душы пахваліцца пры ўсякай нагодзе.

А. Міцкевіч зрабіў да гэтага месца заўвагу: "Князь Дамінік Радзівіл, вялікі аматар палявання — эмігруравай у Варшаўскае герцагства і выставіў уласным коштам конны полк, якім камандаваў. Памёр у Францыі. На ім згасла мужчынская лінія князёў на Алыку і Нясвіжы, найвялікшых паноў у Польшчы і напэўна ў Еўропе".

Па-свойму выклаў гэту заўвагу Дунін-Марцінкевіч: "Князь Дамінік Радзівіл вельмі багаты пан літоўскі (нашаму пісьменніку, відаць, было важна падкрэсліць гэтую акалічнасць. — Г. К.), любіў ён мысліўства. Як французы і палякі біліся з маскоўскай сілой, то ён сваім коштам паставіў полк уланаў. Памёр у французскай зямлі".

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 26.**

РЫХТУЕЦЦА ДА ПРЭМ'ЕРЫ



**У Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы на малой сцэне рэжысёрам Валерыем Анісенкам рыхтуецца да прэм'еры спектакль "Гамлет" па п'есе У. Шэкспіра.**
**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# НОВАЯ СУСТРЭЧА З ВОЛЬГАЙ САВАСЦЮК

У кожнага з літаратараў свой шлях да кнігі, да творчага прызнання. У адных усё складваецца гладка. Філалагічны факультэт, заняткі ва універсітэцкім літаб'яднанні, вершаваны зборнік у серыі "Першая кніга паэта" (а паншацыць — то яшчэ і кніга ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць"). Следам — сталая паэтычная праца, адна за другой кнігі вершаў, паэм. А яшчэ гавораць, што вершы ў горадзе не растуць. Якраз у горадзе яны і растуць, спеюць, каласяцца.

Вольга Савасцюк, чые вершы прымушалі гаварыць пра аўтара яшчэ са школьных публікацый у "Бярозцы", "Чырвонай змене", скончыла філфак Белдзяржуніверсітэта і паехала працаваць настаўніцай у вёску. Зараз — карэспандэнт раённай газеты "Пухавіцкія навіны". Завочна скончыла факультэт журналістыкі БДУ. І, канешне ж, працягвае пісаць вершы. У 1995 годзе ў "Юнацтве" пабачыў свет калектыўны зборнік для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту "Самавар у лесе". Летась выдавецтва "Беларускі кнігазбор" зрабіла Вользе таксама цудоўны падарунак, сабраўшы ў асобную кніжачку "Арэлі на вясёлцы" яе творы, адрасаваныя малым. Пра гэтую кнігу пісалі і "Літаратура і мастацтва", і "Мінская праўда".

А зараз — новая сустрэча з кнігай Вольгі Савасцюк. У Мар'інай Горцы ў серыі "Паэты Пухаўшчыны" выйшла кніга яе вершаў "Сустрэча". Тэматычны дыяпазон у гэтым зборніку шырэйшы, дазваляе ўявіць абсяг творчых памкненняў Вольгі Савасцюк.

І, канешне ж, як у паэзіі сапраўднай, вершаваны радок найперш скіраваны да найгалоўнейшых тэм — каханне, матуля, бацькоўскі дом. Можна па-рознаму называць гэтыя тры вымярэнні. Але яны і толькі яны — жыццядайная сіла натхнення, невычэрпная крыніца творчасці:

**Калі зняможацца душа**
**Сярод халодные чужыны,**
**Зноў прывядзе цябе шаша**
**Туды, дзе рдзеюць арабіны.**
*("Бацькоўскі дом").*

Паэт з першых радкоў ва ўсіх літаральна вершах задае напружанне на ўвесь твор. Знаходзіць не толькі словы, якія малююць, адгрунтоўваюць карціну рэчаіснасці. А і тыя словы, што падаюць чытачу родныя, адкрытымі. У сваім паэтычным выбары Вольга Савасцюк далёкая ад якога б там ні было вершаванага штукарства. Будучы прыхільніцай простай, немудрагелістай паэзіі, аўтар кнігі "Сустрэча" і ў форме, і ў змесце ідзе ад жыцця, кіруецца яго мараллю, дабрачыннасцю і гуманнасцю. Мо таму часам некаторыя творы залішне прамалінейна-маралізатарскія (як, прыкладам, верш "Віна"). Ды тут ужо нічога не зробіш: такі ў паэта жыццёвы і творчы характар.

**Твае лісты я аддала агню.**
**Ён прагна есць знаёмую хлусню,**
**Сатканую з лагодных абяцанняў,**
**Салодкіх фраз, пранізаных каханнем,**
**Якога ў нас ніколі не было.**
**Яно, нібы далёкае святло,**
**Ледзь бачна тлела,**
**Згаснуўшы зусім.**
**Гараць лісты,**
**Халодна нам дваім...**
*("Гараць лісты").*

Здавалася б, каханне — з жаданых і найпрасцейшых, асвячоных натхненнем, адвечных тэм. Але якая небяспека — не згубіцца ў рэдкалессі слоў "кахаў", "разлука" ды ім падобных. Ёсць выйсце, падуладнае шчыраму таленту, натуры адкрытай, здольнай да даверлівага дыялога з чытачом. Лірычная гераіня Вольгі Савасцюк вядзе размову фактычна пра адно — пра выбар, які аказаўся стратай. І за словамі, простымі, някідкімі, вымалёўваецца, спакваля адкрываецца трапяткі свет пачуццяў. Шчыры, лірычна-драматычны свет.

Перагарнуўшы апошнюю старонку новай кніжачкі вершаў Вольгі Савасцюк "Сустрэча", крыху пашкадаваў. І вось аб чым. Творчая манера паэта засталася ранейшай, той, якой яна кіравалася і пішучы ў юнацтве, у дзяцінстве. Вершы, якія змяшчала В. Савасцюк калісьці ў "Бярозцы", іншых выданнях, вартыя і сучаснага кніжнага выдання. І гэта, паверце, не перабольшанне.

Знаёмства з кнігай В. Савасцюк "Сустрэча" падштурхоўвае таксама да наступных разваг. Ужо традыцыяй становіцца ў Пухавіцкім раёне выданне сціплай кніжнай серыі "Паэты Пухаўшчыны". Летась былі выдадзены яшчэ і зборнічак рэпрэзіраванага паэта Рыгора Папараца "Дарыўце мне". Пухавіцкі раён, Мар'іна Горка багатыя на сучаснае, сённяшняе літаратурнае жыццё. І ёсць спадзяванне, што пры падтрымцы мясцовых улад будуць выдадзены кнігі Міхаіла Пацыкеры, Леаніда Дубоўскага, Уладзіміра Рунцэвіча ды шмат якіх кнего.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ВЯРТАННЕ ДА МІЦКЕВІЧАЎСКІХ РЭАЛІЯЎ, альбо ВАНДРОЎКА Ў КАЛДЫЧЭЎСКАЕ ЗАВОССЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

За прысадамі, сюды ж падступала вёска Асташын, затым — Любанічы, дзе нямала было нашай радні, а за маляўнічым пагоркам — Крынкі, адкуль паходзіла матуля. На другі бок даліны і самой ракі Сэрвач ішлі вясковыя сенажаці і багатыя сады.

На поўдзень ад Баяр праз лясістыя пагоркі цягнуўся засценак Рукаўчычы і вёска Аканавічы з працавітым паспалітым людам, да якіх блізка падыходзілі забудовы гміннага Цырына з велічнай бажніцай на ўзвышшы, што прыдавала мястэчку і ўсёй Сэрвацкай даліне асаблівую чароўнасць і завершанасць цудоўнага краявіду.

Ад мястэчка амаль па шнурочку спадарожнічалі вёскі Красная, Церавічы, Быкевічы, Мітрапольшчына. Адтуль як на далоні віднеліся векавыя шпалеры з таполяў і ліп за ракою Сэрвач у Туганавічах. Да іх хочацца вярнуцца, але зробім гэта пазней. А цяпер у Трацавічах ля млына дарога скіроўвае ў Скробава, а пасля да Вызарак і Медзяневічаў. Перад намі некалькі засцянковых хутароў — фальваркаў. Гэта і ёсць калдычэўскае Завоссе. Ля агромністага каштана ўзвышаецца помнік-абеліск, які клопатамі Міцкевічаўскага камітэта і стараннямі жыхароў Завосся і ваколічных вёсак у 1928 годзе быў збудаваны.

Каля яго ляжыць камень, які згодна з фамільным паданнем знаходзіўся ля бацькоўскага парога. На помніку віднеецца надпіс:

**Тут, у Завоссі,**
**24 снежня 1798 года**
**нарадзіўся вялікі паэт**
**Адам Міцкевіч.**

Схіляем галаву ў пашане да слыннага чалавека. Пагаджаемся, як слушна адзначалі многія вучоныя, літаратары, мастакі, мемуарысты і проста наведвальнікі, што прыгажосць гэтай зямлі, народныя паданні і легенды, традыцыі родных мясцін былі крыніцай натхнення і творчасці паэта. Міжвольна згадваюцца радкі:

**О, наваградскі край —**
**мой родны дом...**
**Куды б мяне ні кінуў лёс**
**жыццёвы,**
**Забыць я не магу твае палі,**
**дубровы.**

Так ўсхвалявана пісаў паэт у раннім творы "Бульба".

А цяпер звернемся да асобных фрагментаў твора, які прысвечаны непасрэдна Завоссю, — баладзе "Тукай, або Выпрабаванні дружбы" ў цудоўным перакладзе паэткі-зямлячкі Ніны Тарас:

**Ноч навісла над зямлёю...**
**Месяц з серабрыстым тварам**
**То спяшыць насустрач**
**хмарам,**
**То панікне за імглою.**
**А яны ўсё крочаць далей.**
**Над балотам дождж імгліцца.**
**Праміналі ўжо Гніліцу**
**І Калдычэўскія хвалі,**
**Дзе дрыгвы купчастай шыры**
**Абступіў гушчар сасновы,**
**На гары відаць Жарновай**
**Чуб, насунуты са жвіру.**

Каб упэўніцца ў прывязцы тапанімікі, звернемся па тлумачэнні да самога аўтара, бо ён іх падае. Варта заглянуць у пашыраны пяцітомны збор твораў, які выпусціла ў свет польскае выдавецтва "Чытэльнік", 1957. На старонцы 268 першага тома гаворыцца: "Тукай — звычайнае прозвішча, якое сустракаецца ў некаторых вёсках каля Завосся (на Наваградчыне), дзе адбываецца дзеянне балады. Гніліца — назва існуючага лесу. Калдычэва — Калдычэўскае возера паблізу Завосся. Жвірамі насунутае-прысыпанае. Жарновая гара — тут каля Завосся. Палель — імя быццам бы славянскага бажка".

Міжвольна прыгадваецца малюнак-літаграфія Эдварда Паўловіча (1825—1909), які быў знаёмы з паэтам і дружыў з яго сям'ёй. Відаць, мемуарыст-мастак адчуваў і разумеў вялікую адказнасць перад будучыняй свайго і суседніх народаў, калі так дакладна перадаў на малюнку патрэбныя мастацкія і дакументальныя дэталі тапанімікі. Падобны малюнак міцкевічаўскай сядзібы ў Завоссі зрабіў вядомы мастак Напалеон Орда (1807—1883), аднак гэтых дэталяў у яго няма. Малюнак атрымаўся ў яго больш абагульнены. Але сумнявацца не трэба. Важна, што гэта адзін і той жа дом-сядзіба ў Завоссі калдычэўскім.

Цікава, што калі з пачатку вясны 1862 года на радзіму бацькі завітаў старэйшы сын паэта Уладзіслаў (1838—1926), яго галоўны бібліёграф Эдвард Паўловіч ахвотна згадзіўся суправаджаць дарагога госця. Пазней згадваў: "Абвезлі яго па ваколіцах, знаёмілі з памяткамі, слядамі бацькі, якія з рэлігійнай пачцівасцю перахоўваюцца. Былі ў Туганавічах, Завоссі і г. д."

Сімвалічна і не выпадкова, што герой філасофскай балады "Тукай, або Выпрабаванні дружбы" (Адам Міцкевіч. "Зямля Наваградская, краю мой родны..." Мн. 1969. С. 84—94) заклапочана разважае аб каштоўнасцях жыцця, справядлівасці, вартасцях навукі, багацці, славе, прыстойнасці:

**Ёсць мудрэц Палель — ён**
**прагне**
**Мудрацу даць дапамогу**
**...жыццёвай школе...**

Так, мудрэц з народа змагаецца за ідэалы гуманізму, раіць не паддавацца спакусам, падману, а жыць прыстойна, дзеля справядлівасці. У гэтым ён бачыць несмяротнасць сапраўднага чалавека.

З маленства, колькі сябе памятаю, у бацькоўскім доме і навакольных вёсках "тутэйшыя людзі" глыбока шанавалі вялікага земляка. Яго партрэцік у прыгожай арэхавай рамачцы, змайстраванай старэйшым братам Міхасём, размяшчаўся на пачэсным месцы нашага дома. Са сваім настаўнікам, а пазней і сябрам Каралем Янцалевічам з Любаніч многія памятныя мясціны паэта ён наведваў неаднойчы. Даводзілася чытаць ягоныя рыфмаваныя радкі, поўныя непасрэднасці і шчырасці:

**Род Рымвідаў даволі слаўны**
**Па ўсёй Сэрвацкай даліне —**
**Ад Калдычэўскага Завосся**
**Да Падгайнай і Цырына.**

Памятныя мясціны Адама Міцкевіча часта наведвалі і мы, вучні і настаўнікі Цырынскай школы, а таксама моладзь з суседніх вёсак і мястэчак. Пасля заканчэння вучобы даводзілася сустракаць і бачыць шматлікія "пілігрымкі" (вандроўкі) экскурсантаў і турыстаў з многіх краін свету. На такіх цікаўных гасцей, здаецца, пазіраў бы бясконца. Мяне гэта вельмі цешыла. З радасцю згадзіўся пасля універсітэцкіх студыяў у 1956 годзе паехаць папрацаваць у Музей Міцкевіча.

У наведвальнікаў узнікала нямала пытанняў, нават у нашчадка паэта Ежага Гарэцкага, які наведаў родныя мясціны свайго дзеда ў красавіку 1957 года. "Ці засталося што-небудзь ад міцкевічаўскай сядзібы ў Завоссі?" Прыходзілася тлумачыць, што ў перыяд першай сусветнай вайны па Сэрвацкай даліне тры гады праходзіла франтавая лінія варагуючых армій. Драўляны двухпавярховы свіронак, так званы "лямус", захоўваўся даволі доўга. Фотакарэспандэнты зафіксавалі яго стан у 1906 годзе, а праз дзесяць гадоў апошняй памяткі не стала. Вайна не пашкадавала. Таму "Калдычэўскія хвалі" калышуцца адзінока.

Міцкевічаўскі камітэт, які ўзнік пасля наведвання Наваградчыны сынам паэта Уладзіславам у 1922 годзе, многае зрабіў для папулярызацыі жыцця і творчасці вялікага земляка. Яго стараннем быў падрыхтаваны і выдадзены ў Варшаве калектыўны зборнік прац, які закліканы даць уяўленне аб Наваградчыне з пункту гледжання геаграфічнага, гаспадарчага, культурнага, этнаграфічнага, а таксама аб славутасці гэтай гістарычнай зямлі — Адаму Міцкевічу. Гэтай тэме прысвечаны нарысы Марты Губіцкай "Калі будзеш у наваградскай старане..." і Вацлава Баравога — "Міцкевічаўская Наваградчына" з патрэбнай картай "міцкевічаўскіх ваколіц". Тут падаюцца і назвы мясцін, якія згадваюцца ў пісьмах або біяграфічных дакументах паэта.

Таму, зыходзячы з міцкевічаўскіх рэаліяў, меркаванні навуковых супрацоўніц Л. Усенкі і С. Анісімавай, выказаныя ў публікацыі "Дык дзе ж было Завоссе?" (ЛіМ, 1997, 28. III), у якой сцвярджаецца, што Завоссе, дзе нарадзіўся вялікі паэт, знаходзіцца пад Наваградкам "над рэчкай Осай, якая ўпадае ў рэчку Валоўку (Валоўню)... паміж мастком на Нягневічы і мастком, які вядзе на Дзяляцічы—Любчу" — супярэчаць гістарычнай і біяграфічнай праўдзе. У ніводным дакуменце, творы Адам Міцкевіч не згадвае пра Осаўскае Завоссе. Затое Калдычэўскае Завоссе ўслаўлена ім у баладзе "Тукай, або Выпрабаванні дружбы" не выпадкова. Тут і "лес Гніліца, і Калдычэўскае возера, і гара Жарнова" (пра яе, дарэчы, згадваў В. Каратынскі). Усё тут жа. Гэта гармонія, якая зыходзіць з сямейнай біяграфіі Міцкевічаў, паэтычных рэаліяў паэта. Іх ніхто не адважыцца перакрэсліць.

Няхай прабачаць шаноўныя супрацоўніцы Музея Адама Міцкевіча, што не магу падтрымаць іх спробы ўнесці штосьці новае ў жыццярыс паэта, калі яно не пацвярджаецца людской памяццю (архіўнымі дакументамі), а пра Калдычэўскае Завоссе захаваліся пераканаўчыя сведчанні, нават "дымы" апеў як доказы феадальна-імперскага праўлення ў нашым краі ("Тукай..." С. 84). Гістарычныя і біяграфічныя факты патрабуюць аб'ектыўнасці. З імі трэба лічыцца, шанаваць дзеля справядлівасці і добрай памяці славутага земляка.

**Леў МІРАЧЫЦКІ.**







**НА ЗДЫМКАХ: Завоссе. Домік, у якім нарадзіўся паэт. Рысунак Эдварда Паўловіча, 1842 г.; Максім Рыльскі ў Завоссі. Здымак 60-х гадоў; свіран (даўні лямус). Здымак 1906 г.**

## МЭЯ ДРУЖЫЦЬ З БЭЗам

**Больш як тры гады працягваецца дружба паміж творчым аб'яднаннем "МЭЯ" (Мастацтва, экалогія і я) з Гомеля і таварыствам беларускай культуры "БЭЗ" з Эстоніі. У гарадах Йыхва і Талін ужо адбыліся тры выставы гомельскіх мастакоў, членаў "МЭЯ", а ў ліпені-жніўні гэтага года па запрашэнню беларускага таварыства культуры з Эстоніі будзе арганізавана яшчэ адна, якая пройдзе пры падтрымцы аддзела культуры Гомельскага аблвыканкома.**



**НА ЗДЫМКУ: члены творчага аб'яднання "МЭЯ" Уладзімір АНДРЭЯНАЎ, Ларыса ЗУЕВА і Святлана КУРАШОВА адбіраюць работы для выставы ў Эстоніі.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

*ПАМЯЦІ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА*

## ЧЫТАННІ Ў ГОРКАХ

Традыцыйныя чытанні памяці Максіма Гарэцкага адбыліся днямі ў Горках у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. А напярэдадні ў гэтай старэйшай ВНУ адкрыўся кабінет-музей вядомага пісьменніка. Тут устаноўлены бюст класіка беларускай літаратуры, на стэндах прадстаўлены яго творы, розныя дакументы і экспанаты, якія дапамагаюць прасачыць жыццёвы і творчы шлях Максіма Гарэцкага.

Створаны кабінет-музей пры кафедры беларускай і рускай моў. Ён будзе служыць аўдыторыяй для тэматычных заняткаў, а таксама для правядзення экскурсій. Аднымі з першых яго наведвальнікаў сталі ўдзельнікі чытанняў памяці Максіма Гарэцкага — навуковыя супрацоўнікі Інстытута літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, даследчыкі творчасці пісьменніка, літаратары, выкладчыкі БСГА, настаўнікі. Чакаецца, што з Санкт-Пецярбурга прыедзе яго дачка Галіна Максімаўна.

У Горках шануюць памяць аб гэтым выдатным чалавеку. На старадаўнім будынку вучэбнага корпуса, у якім Максім Гарэцкі спасцігаў асновы навук, у гонар 100-годдзя з дня нараджэння пісьменніка была адкрыта мемарыяльная дошка. Яго імем названа раённая бібліятэка, вуліца, на якой ён калісьці жыў.

Пасля літаратурных чытанняў іх удзельнікі наведалі сядзібу-музей Максіма Гарэцкага на яго радзіме ў вёсцы Малая Багацькаўка Мсціслаўскага раёна, сустрэліся з яго землякамі.

# І ТУТ ДУШОЙ АДПАЧЫВАЮЦЬ





**Сапраўднай кладоўкай раслiннага багацця стаў Цэнтральны батанiчны сад Нацыянальнай акадэмii навук Беларусi, якому сёлета спаўняецца 65 гадоў. За гэты час у iм сабрана каля дзвюх тысяч вiдаў раслiн, радзiма якiх — усе кантыненты свету. Чаго толькi ў iм няма!**

**Падзiвiцца на заморскiя раслiны, палюбавацца iмi прыходзяць штогод дзесяткi тысяч наведвальнiкаў. А мiнчане iдуць адпачываць сюды цэлымi сем'ямi. Тут амаль сто гектараў экзотаў, прыгажосцi, цiшынi ў цэнтры двухмiльённага горада. Не злiчыць утульных мясцiн, прывабных куточкаў.**

**Добра. Прыгожа.**

**Аднак асноўная задача Цэнтральнага батанiчнага — навукова-практычная дзейнасць. Яго шматлiкiя лабараторыi займаюцца iнтрадукцыяй раслiн, праблемамi аховы прыроды, укараненнем навуковых дасягненняў у сельскагаспадарчую вытворчасць, у лясную гаспадарку. Прапанаваны для вырошчвання ў народнай гаспадарцы баршчэўнiк, абляпiха, лiмоннiк кiтайскi, дзесяткi iншых кармавых, тэхнiчных i лекавых раслiн. Выведзены каля сотнi новых сартоў кветкава-дэкаратыўных раслiн. Навукова абгрунтавана арганiзацыя ў рэспублiцы запаведнiкаў, заказнiкаў. Сад мае сувязi з дзесяткамi батанiчных садоў розных краiн.**

**Сёння, у днi святкавання 930-годдзя Мiнска, батанiчны сад наведваюць тысячы людзей. Як заўсёды, яны тут душой адпачываюць.**

**Здымкi зроблены нашым фотакарэспандэнтам Вiктарам СТАВЕРАМ у Цэнтральным батанiчным садзе.**





## АДАМУ МІЦКЕВІЧУ — УДЗЯЧНЫЯ ЗЕМЛЯКІ

У наступным годзе да 200-годдзя паэта Адама Мiцкевiча на месцы яго нараджэння ў Баранавiцкiм раёне будзе адкрыты музей-сядзiба.

Кiраўнiкi калгаса "Шлях Ленiна", на цяперашняй тэрыторыi якога знаходзiўся хутар вёскi Завоссе, дзе Адам Мiцкевiч з'явiўся на свет, вырашылi аднавiць усе пабудовы ў такiм выглядзе, якiмi яны былi пры жыццi паэта. На месцы маёнтка ўжо пабудаваны дом, у якiм нарадзiўся паэт, двухпавярховы свiран, кароўнiк, адрына, склеп, ачышчана возера. Работы вядзе рэстаўрацыйная брыгада з Мiнска, а праекты пабудоў, што рэальна iснавалi, адшуканы ў архiвах Польшчы.

*НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ*

# КАТАЛОГ І КАНВЕРТЫ




Беларуская фiлатэлiстычная лiтаратура папоўнiлася яшчэ адным выданнем. Паступiў у продаж такi неабходны беларускiм фiлатэлiстам "Каталог паштовых марак Рэспублiкi Беларусь. 1996". У новым выпуску каталога апiсаны паштовыя выпускi 1996 года. А гэта — 54 паштовыя маркi, 10 арыгiнальных паштовых блокаў i 17 спецыяльных штэмпеляў, якiя расказваюць аб гiсторыi, флоры i фауне рэспублiкi, аб вядомых гiстарычных асобах Беларусi. Паштовыя выпускi 1996 года — гэта важкi i цiкавы ўклад у беларускую фiлатэлiю.

Папоўнiлi свае калекцыi фiлатэлiсты, якiя збiраюць паштовыя канверты.

Споўнiлася 125 гадоў з дня нараджэння Адама Багдановiча (1862—1940), бацькi вядомага беларускага паэта Максiма Багдановiча, этнографа, мовазнаўцы, фалькларыста. А. Багдановiч скончыў у 1882 годзе Нясвiжскую настаўнiцкую семiнарыю. Працаваў у Мiнску загадчыкам гарадскога пачатковага вучылiшча (1885 год), у Гродне ў зямельным банку (з 1892 года). Жыў у Нiжнiм Ноўгарадзе i Яраслаўлi. Ён аўтар шматлiкiх работ: "Пра паншчыну", "Этнiчны састаў народаў славянскiх i рускiх", "Этнiчны састаў беларускага народа" i шэраг iншых. Запiсаў шмат твораў беларускага фальклору. Iм напiсаны ўспамiны аб сыне-паэце, М. Горкiм, Ф. Шаляпiне.

На малюнку канверта — партрэт вучонага, васiлькi i надпiс: "Адам Ягоравiч Багдановiч. 1862—1940. Вучоны-этнограф, педагог, выдатны дзеяч беларускай культуры". Аўтар канверта — мастак Мiкола Рыжы.

Сёлета спаўняецца 900 гадоў гораду Пiнску. Да юбiлею выдадзены паштовы канверт. Упершыню горад Пiнск (летапiсны Пiнеск) упамiнаецца ў "Аповесцi мiнулых гадоў" пад 1097 годам. У гэтага горада багатая гiсторыя. Ён быў цэнтрам Пiнскага княства. З пачатку XIV стагоддзя ў саставе Вялiкага Княства Лiтоўскага. У 1581 годзе горад атрымаў магдэбургскае права i герб — у чырвоным полi залаты лук з нацягнутай цецiвой, сталёвае джала стралы накiравана ўправа. Пасля другога падзелу Рэчы Паспалiтай (1793) Пiнск — у саставе Расiйскай iмперыi, цэнтр павета. У сярэдзiне 20-х гадоў XX стагоддзя — сталiца Палесся (у складзе Польшчы), а потым — у 1939—1954 гадах — цэнтр вобласцi ў саставе БССР. Сёння Пiнск — горад абласнога падпарадкавання, цэнтр раёна ў Брэсцкай вобласцi.

На малюнку канверта — набярэжная ракi Пiны, пiнскi касцёл i манастыр (былы) францысканцаў. Тут у 1396 годзе быў узведзены драўляны манастыр, а ў 1510-м пабудаваны каменны касцёл, якi ў 1712—1730 гадах быў крыху перабудаваны. Галоўны фасад касцёла багата дэкарыраваны карнiзамi, пiлястрамi. Iнтэр'ер касцёла быў упрыгожаны драўлянай скульптурай, арнаментальнай разьбой i фрэскамi, створанымi ў 1909 годзе мастаком Б. Вiшнеўскiм.

**Леў КОЛАСАЎ.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 33-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 939. Падпісана да друку 30.6.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.